# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 51 (1701) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 18 СНЕЖНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.



Злева: Валянціна Ласкевіч, Тамара Цыунчык, Вера Валкавыцкая.

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку вялікі і цэнтральны аддзел у структуры БГКТ. Ён знаходзіцца ў сядзібе ГП і ўсіх ваяводскіх уладаў. Ад яго можна і трэба чакаць багатай культурнай дзейнасці. Дагэтуляшняя праца аддзела паказвае на яго вялікія магчымасці ў гэтай працы, але і на вялікія рэзервы, якія ён не заўсёды мог разгарнуць па двух найважнейшых прычынах. Першая аб'ектыўная: рамонт будынка Таварыства на вул. Варшаўскай 11, значыць, і клубных памяшканняў, цягнуўся гадамі. Сходы, сустрэчы і праца калектываў праходзіла дзе ўдалося: і па хатах, і ў пазычаных памяшканнях. Другая прычына — гэта нейкае недаацэньванне Беластоцкага гарадскога аддзела з боку Прэзідыума ГП і кіраўніцтва Таварыства. Узяць, для прыкладу, такія добрыя ініцыятывы гарадскога актыву, як Свята беларускай культуры ці Ноч Купалы. Яны ж прабіваліся і ажыццяўляліся аддзелам толькі дзякуючы вялікай напорыстасці актыву і яго перакананню ў патрэбе такіх мерапрыемстваў. Цяпер яны ўжо заваявалі трывалае месца ў культурным жыцці Таварыства і сталі прыкладам для шырокага наследавання. Але каштавала гэта шмат нерваў. Так складалася сітуацыя да нядаўняга часу, што гарадскі аддзел БГКТ не меў свайго лобі ў ГП і Прэзідыуме. Аднак беластоцкі актыў, з якога варта назваць хоць прозвішчы Валянціны Ласкевіч, Любы Гаўрылюк, Мікалая Гайдука, Сцяпана Копы, Кастуся Масальскага, Тамары Цыунчык, Тамары Баран, Янкі Крупы, Сцяпана Зенюка, Янкі Стрышко, Уладзіміра Куршаля, ніколі не патраціў энергіі і арыенціру на разбуджэнне беластоцкіх беларусаў.

XI З'езд БГКТ прынёс некаторую перагасоўку сіл. Фактычныя беларускія актывісты і патрыёты, у тым ліку і з горада Беластока, атрымалі больш голас у ГП і ў Прэзідыуме. Няма сумненняў, што для гарадскога аддзела наступіў новы перыяд у дзейнасці, больш спрыяльны.

## ВЫХАД НА ШЫРЫНЮ

За рэдакцыйным сталом са мной сядзяць Валянціна Ласкевіч, старшыня аддзела, і адзін з яе намеснікаў — Тамара Цыунчык. Перад намі праграма дзейнасці аддзела БГКТ на 1985—1988 гады. Гаворым аб здзяйсненнях і планах, радасцях і клопатах Беластоцкага аддзела. Коратка аб здзяйсненні: арганізацыя канцэртаў для беластаччан — выступалі ў Беластоку „Васілёчкі" з Бельска, Гарадок і Гайнаўка. Праводзіліся сустрэчы з паэтамі і пісьменнікамі „Белавежы", з журналістамі „Нівы", навагоднія беларускія ёлкі для дзяцей, вельмі папулярныя, маладзёжныя вечарыны-дыскатэкі. Была сустрэча з моладдзю Фінляндыі і з калектывам „Лявоны" з Беларусі. Адбываюцца пастаянныя сустрэчы, раз у тыдзень, гуртка пенсіянераў, навагоднія балі па старому стылю, беларускія фэсты ў гарадскім парку з удзелам шматлікіх беларускіх калектываў з усяе Беласточчыны. Дарэчы тут сказаць, што фэсты перарадзіліся ў вялікае мерапрыемства, званае цяпер Святам беларускай культуры. За адраджэнне прыгожай і вялікай беларускай традыцыі — Ночы Купалы — беластоцкаму гарадскому аддзелу належыцца асобная падзяка. Справаздачны перыяд прынёс вялікі колькасны і якасны рост хору аддзела. У хуткім часе калектыў дасягнуў высокага ўзроўню і ўсё больш упэўнена выходзіць на перадавую ў нашым мастацкім руху. Выступае многа і ў розных асяроддзях, у тым ліку і на прадпрыемствах і ва ўстановах Беластока. Штораз часцей пачынаюць запрашаць яго за межы Беласточчыны. Ва ўсім гэтым вялікая заслуга Любы Гаўрылюк і Сцяпана Копы. Сістэматычна працуе тэатральны калектыў, арганізаваны гуртком пенсіянераў, у першую чаргу сям'ей Пісанкаў і Байгусаў.

Вялікую працу з песняй у апошнія тры гады павяла ў аддзеле Ала Дубец. Яна прыцягнула да гэтай працы некалькі дзесяткаў дзяцей і моладзі. Былі вялікія далейшыя планы. На жаль, Ала Дубец нечакана выехала з усёй сям'ёй з Беластока. Як цяпер пойдзе пачатая праца, цяжка і сказаць.

З планаў на першае месца трэба паставіць справу навучання беларускай мовы ў г. Беластоку. Многа было захадаў з

(Працяг на стар. 5)

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

25 лістапада г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Разглядаліся справы гаспадарчай дзейнасці Таварыства. Некаторыя пытанні арганізацыі гаспадарчай дзейнасці асветліў інспектар Варшаўскага аддзела БГКТ Хведар Галёнка. Прынята пастанова ўвесці гаспадарчае пытанне на першае пасляз'ездаўскае пасяджэнне ГП БГКТ у снежні 1988 г. Прэзідыум пастанавіў запрасіць на пленарнае пасяджэнне ГП старшынь аддзелаў, якія не ўваходзяць у склад ГП, і некаторых іншых асоб, кампетэнтных у гаспадарчай дзялянцы жыцця.

Далей была пастаўлена праблема персанальнай адказнасці членаў Прэзідыума за працу паасобных секцый БГКТ. Мяркуецца стварыць 7 секцый: культурную, асветную, навуковую, выдавецкую, маладзёжную, этнаграфічную і літаратурную.

Былі таксама пастаўлены прапановы адносна апекі членаў Прэзідыума і ГП над паасобнымі аддзеламі Таварыства. Канчаткова склад кіраўніцтва секцый і асоб, нясучых адказнасць за дзейнасць тэрытарыяльных звенняў БГКТ, будзе вырашаны на пасяджэнні ГП.

Прэзідыум вырашыў правесці ў 1989 годзе беларусазнаўчы конкурс, які пашыраў бы веды аб беларускай культуры і гісторыі сярод беларускай моладзі. Конкурс мяркуецца правесці на трох узроўнях: у пачатковых школах, у сярэдніх школах, у студэнцкім асяроддзі. Прэзідыум паклікаў арганізацыйны камітэт беларусазнаўчага конкурсу ў наступным складзе: Сакрат Яновіч, Антон Міраповіч, Марыя Базылюк, Яўген Вапа. Праграма і правілы правядзення конкурсу будуць пададзены да ведама зацікаўленых асяроддзяў у пачатку 1989 года. Прэзідыум скарыстаў з ветлівай прапановы канадскага таварыства „Беларусь" адносна ўзнагарод для пераможцаў беларускага конкурсу.

Апрача таго, Прэзідыум зацвердзіў план культурных мерапрыемстваў БГКТ у 1989 годзе і разгледзеў некалькі спраў унутрыарганізацыйнага характару.

Ян Максімюк




## ДЭМАНСТРАЦЫЯ

Вярнуўшыся з Кліўленда ў Нью-Йорк, я быў сведкам незвычайнай дэманстрацыі. А сталася гэта такім чынам. Пайшлі мы прайсціся каля будынкаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У будынкі не намерваліся заходзіць, бо і я і Барташэвіч былі там раней. Я нават шэсць гадоў таму назад апісваў свой візіт у ААН.

Гэтым разам, падыходзячы да аанаўскіх будынкаў, былі мы здзіўлены вялікай колькасцю паліцыянтаў на вуліцах, якія вялі да ААН. Чым бліжэй падыходзілі мы да ААН, тым паліцэйскіх было болей. Мы падумалі, што могуць быць дзве прычыны такіх абставін: або прыязджаюць у ААН галовы іншых дзяржаў, або паліцыя атрымала паведамленне аб тым, што плануецца нейкі тэрарыстычны акт. Аднак пярэчыла такім домыслам тое, што ніхто нас не спыняў і мы, свабодна абмінаючы паліцэйскіх, маглі бесперашкодна набліжацца да агароджы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. І калі мы ўжо падыйшлі да гэтай агароджы, сітуацыя нечакана выяснілася. Высветлілася, што праводзілася дэманстрацыя гомасексуалістаў, якія пратэставалі супраць таго, што дзяржава не забяспечвае іх здавальняюча ад хваробы СНІД, якую ў нас называюць AIDS.

Мы, хочучы не хочучы, затрымаліся і прыгледзеліся да дэманстрантаў. Было іх намнога меней, чым паліцыі. Так прыблізна чалавек семдзесят-восемдзесят. Амаль усе маладыя. Частка белых, частка чорных. Займалі яны невялікую плошчу, якую досыць шчыльна акружала паліцыя. Як дэманстранты, так і паліцыя паводзілі сябе вельмі спакойна. Не чуваць было крыкаў, не відаць ніякай мітусні. Частка паліцэйскіх была павернута да дэманстрантаў тварамі. Некаторыя былі адвернуты ад іх плячыма, а яшчэ іншыя спакойна прахаджваліся туды і назад. Выглядала гэта неяк так, што гэтыя дзве групы не маюць да сябе ніякай справы. Дэманстранты стаялі групкамі, але найчасцей парамі. Крышку смешна выглядала двое мужчын, якія стаяць побач і адзін другога абнімае за шыю, талію, або нават крыху ніжэй. Не меней дзівіць, калі мужчына мужчыну цалуе і цалуе ж не па-братэрску. Якраз так рабілі дэманстранты.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаго дамагаліся дэманстранты і ці ўвогуле дамагаліся, калі не крычэлі, не прамаўлялі, нікуды не рваліся. Аднак дамагаліся. Іх патрабаванні красаваліся на транспарантах, якія былі развешаны перад імі. І якраз на гэтых транспарантах было напісана аб розных „крыўдах" сабраных. Гаварылася аб тым, што на свеце ўжо ёсць дзесяць мільёнаў хворых на СНІД і што будзе іх намнога болей. Чалавецтва і Арганізацыя Аб'яднаных Нацый трацяць мільярды долараў на розныя неістотныя або нават злачынныя рэчы і ўвогуле не займаюцца тымі, хто ўжо сёння з'яўляецца ахвярай СНІДу або будзе ёю заўтра. Калі б энергія навукі і матэрыяльныя сродкі былі кінуты на барацьбу са СНІДам, хвароба гэта знікла б з паверхні зямлі і яны маглі б смела аддавацца сваім сладастрасным практыкам. Па сутнасці нічога злачыннага і недарэчлівага ў такой трактоўцы праблемы не было і таму, мабыць, паліцыя і не думала ўжываць сілы ў адносінах да дэманстрантаў.

Мы пастаялі яшчэ крышку, прыгледзеліся да юнакоў, сярод якіх не было ніводнай жанчыны, хаця ў іх вопратцы і паводзінах было не мала жаночага, і пайшлі сваёй дарогай. Пасля аднак вяртаўся я ў думках не адзін раз да гэтай незвычайнай для мяне справы, аж у канцы рашыў падзяліцца ёю з шаноўнымі чытачамі.

**Алесь Барскі**

## З ДРУКУ

### ДУБІНКІ СУПРАЦЬ ГАЛОСНАСЦІ?

Пад такім загалоўкам у 47 нумары маскоўскага штотыднёвіка „Огонёк" надрукаваны артыкул вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава. Піша ён:

„У нядаўна яшчэ мірнай і цалкам дзелавой грамадскай атмасферы Беларусі адбыліся яркія перамены, забушавалі эмоцыі, слоўныя цыклоны завіхрыліся на грамадскіх мерапрыемствах. Што датычыць друку, то яго дзіўна аднадушны хор і быў пачынальнікам шумнай кампаніі выкрывання каварных намераў ворагаў, падрыўнікоў дзяржаўных асноў. Хто ж гэтыя ворагі і дзе іх прапаноўвалася шукаць?"

Адказваючы на пастаўленае пытанне, Васіль Быкаў расказвае пра размашыстую кампанію, якая ў апошні час вялася ў прэсе супраць людзей творчых прафесій — літаратараў, кінематаграфістаў, супраць патрыятычнай моладзі, згуртаванай у нефармальных суполках.

Ва ўмовах нарастаючага псіхалагічнага прэсінга, творчыя саюзы: пісьменнікаў, журналістаў, кінематаграфістаў і мастакоў, а таксама рэспубліканскае аддзяленне фонда культуры і рэдакцыя газеты „Літаратура і мастацтва" на каферэнцыі ў кастрычніку г.г. вырашылі заснаваць гістарычна-асветнае таварыства „Мартыралог Беларусі". Гэтае таварыства галоўнай мэтай ставіць выяўленне ахвяр сталінізму і іх катаў, аказанне дапамогі ахвярам рэпрэсій 30—50-х гадоў, пабудову мемарыяла ва ўрочышчы Курапаты, хадайніцтва аб правядзенні суда над Сталіным. Усю работу таварыства намервалася весці ў цесным супрацоўніцтве з партыйнымі і савецкімі органамі. Як першае мерапрыемства вырашана правесці 30 кастрычніка, у дзень Дзядоў, мітынг-рэквіем у Курапатах пад Мінскам. Своечасова была пададзена заява ў адпаведныя гарадскія ўстановы і таварыства атрымала дазвол. Аднак улады дамагліся, каб мітынг арганізаваць не ў Курапатах, а на адным з могільнікаў на ўскраіне Мінска.

Адносіны ўлад рэспублікі да таварыства „Мартыралог Беларусі" аказаліся варожымі. У друку разгарнулася кампанія супраць яго, а на сходах у Мінску кіраўніцтва і актыў таварыства быў паддадзены лютай прапагандысцкай дыскрымінацыі прадстаўнікамі бюракратычнага апарата горада і гарадскіх прадпрыемстваў. Мэты таварыства прадстаўляліся як антыперабудовачныя і нацыяналістычныя, а прапанова стварыць Народны фронт для падтрымкі перабудовы ў рэспубліцы была ацэнена ўладамі як імкненне да стварэння ўнутранай апазіцыі і адарвання Беларусі ад СССР, выгнання рускіх і т.д. Ніхто не хацеў выслухаць кіраўнікоў „Мартыралога", не даў магчымасці выступіць ім у друку.

Аднабаковая, поўнасцю інспіраваная кампанія, набыла характар ганенняў на нацыянальную інтэлігенцыю. Аб тым, як далёка зайшла справа дэзінфармацыі і дыскрэдытацыі толькі што створанага таварыства, сведчыць факт, што дочкі рэпрэсіраваных у 30-я гады дзяржаўных дзеячоў Беларусі А. Чарвякова і А. Галадзеда, аднагалосна выбраныя ганаровымі членамі „Мартыралога", праз некалькі дзён выступілі ў друку супраць таварыства з недарэчнымі абвінавачваннямі.

Апафеозам гэтай кампаніі былі драматычныя здарэнні ў нядзелю 30 кастрычніка. Некалькі дзён перад гэтым газета „Вячэрні Мінск" у скупой інфармацыі паведаміла, што правядзенне мітынга-рэквіема адклікаецца з прычыны святкавання 70 гадавіны камсамола, а таксама таму, што яшчэ не закончана газетай грамадскае абмеркаванне тэрміну святкавання Дзядоў (з дахрысціянскіх часоў адзначаецца яно ў Беларусі 30 кастрычніка).

Пасля поўдня ў нядзелю 30 кастрычніка ў бок Маскоўскіх могілак пайшлі масы людзей. Гарадская камунікацыя ў напрамку могілак была блакіравана, і людзі цэлымі сем'ямі, з дзецьмі на руках і ў калясках ішлі пехатой. Гэта шэсце каля могілак было затрымана суцэльнай сцяной міліцыі і войск унутранай службы, калонамі вадамётных машын і спецмашын для перавозкі арыштаваных. За шчыльнымі міліцэйскімі радамі відаць былі знаёмыя твары работнікаў райкомаў і гаркома партыі, іншае гарадское начальства. Палкоўнік міліцыі праз мегафон грозным голасам загадаў разыйсціся.

Людзей прыбывала штораз больш. Тады на маўклівы натоўп народу кінуліся людзі ў форме з дубінкамі і пачалі хапаць вядомых у рэспубліцы людзей — мастакоў і пісьменнікаў, выкладчыкаў вузаў, студэнтаў. Пускалі ім у твар слёзатачывы газ з аэразольных балончыкаў. Пачуліся ўзбураныя крыкі: „Сталіністы! Вандэя!" Людзі не разыходзіліся. Спецмашыны з закратаванымі вокнамі запаўняліся людзьмі і ад'язджалі. Сярод адвезеных былі мастакі М. Купава, А. Марачкін, І. Марачкін, журналісты В. Мартыненка, П. Маркаў, вучоны А. Тарасенка, выкладчык універсітэта А. Белы і многія іншыя. Адчулі дзеянне газу галоўны рэжысёр Тэатра імя Янкі Купалы В. Раеўскі, пісьменнік В. Якавенка, дзесяткі іншых. Карэспандэнтам рэспубліканскіх і цэнтральных газет сілай адбіралі фотаапаратуру і засвечвалі плёнкі.

Нейкі час людзі не маглі зразумець, што дзеецца, а зразумеўшы, бязладным натоўпам пайшлі ў бок Курапатаў. Там таксама была міліцыя, войска і пажарныя машыны. Пяцітысячная грамада павярнула з кальцавой дарогі ў чыстае поле і затрымалася на ўзгорку. Наперад выйшлі кіраўнікі „Мартыралога" — археолаг З. Пазняк, пісьменнік У. Арлоў. Каб бачыць прамаўляючых, людзі селі на мёрзлую зямлю, сталі на калені. Да прысутных звярнуўся У. Арлоў, расказаў аб значэнні гістарычнай памяці народа, аб ахвярах сталіншчыны, аб стратах Вялікай Айчыннай вайны. З. Пазняк, які паўгода таму назад адкрыў многатысячныя пахаванні ў Курапатах, прачытаў дэкларацыю таварыства. З вершамі аб ахвярах культу выступіла маладая паэтэса. І не паспеў чарговы аратар закончыць прамову, як на сабраўшыхся рынулі рады войск і міліцыі. Хутка ўдзельнікі мітынгу былі шчыльна акружаны, але ўсе далей сядзелі. Затым прагучэла каманда і войска ўрэзалася ў шчыльны натоўп. Пачуліся крыкі, плач. Седзячых людзей, жанчын і дзяўчат пачалі хапаць за рукі, за вопратку, зрываць з месц. Прагучэла „міласцівая" каманда падпалкоўніка міліцыі: „Детей не трогать!" І сапраўды, дзяцей не чапалі. Затое ўсім іншым хапіла. Калі натоўп быў рассечаны, а мітынг спынены, людзей сталі цясніць. Узяўшыся за рукі людзі сыходзілі з поля. Некаторым удалося вырвацца з акружэння і тады за імі кідаліся ўздагон каманды міліцыянераў і салдат. Уцекачоў даганялі і білі дубінкамі.

Нешта падобнае адбывалася і ў горадзе. Пасля таго, як асноўная маса людзей з могілак адправілася ў Курапаты, частка войск і міліцыі рушыла на гарадскія вуліцы, дзе працягвалася пагоня за адстаўшымі. Да цёмнай ночы ішло паляванне на ўдзельнікаў мітынга. Сотні людзей атрымалі ўдары дубінкамі, былі асеплены слёзатачывым газам. Вечарам арганізатары ганебнага пабоішча падводзілі вынікі.

Горад расхваляваўся. Назаўтра ў творчых асяроддзях адбыліся сходы, на якіх была дадзена адпаведная ацэнка здарэння. Партыйныя і савецкія гарадскія ўлады кінуліся тушыць ідэалагічны пажар своеасаблівым спосабам: узмацнілі націск на непакорных. Па тэлебачанні выступала начальства і апраўдвала сваё права на спыненне мітынгу. Але іх выступленні мала каму паказаліся пераканаўчымі, як і іх смехатвор-

(Працяг на стар. 11)

 




### КАМЕНЬ

Едучы з Бельска-Падляшскага ў Нарву, за Кленікамі ў Тыневічах, бачым, што ад галоўнай шашы адыходзіць дарога направа. Паварочваем. Праехаўшы некалькі кіламетраў, уязджаем у вёску Камень. Вёсачка невялікая. Хаця, як расказваюць старыя людзі, у далёкім мінулым налічвала яна чатырыста жыхараў. Што здарылася?

Але па чарзе. Што гаворыць гісторыя? Міхась Кандрацюк у „Назвах мясцовых паўднёва-ўсходняй Беласточчыны“ піша так: „(...) вёска заснавана перад 1570 годам. Тапанімічная назва выводзіцца, пэўна, ад нейкага выдзяляючагася каменя.“ Вось менавіта. Якраз камень, які з'яўляецца ўвекавечаннем пэўнай легенды, і даў назву вёсцы.

Як гаворыць мясцовая легенда, даўным-даўно пасярод лясоў знаходзілася вялікая вёска. Людзі жылі шчасліва, гаспадарылі і ў пэўным моманце памерла маладая дзяўчына. Потым пачалі хварэць наступныя. Перш за ўсё паміралі маладыя людзі. Выводзілі штодзённа па некалькі чалавек. Замест колішняга радаснага жыцця вёска стала агульным вялікім лямантам. Паявілася эпідэмія нейкай дзіўнай хваробы. Сёння людзі гавораць, што была гэта халера. Па вёсцы павеяла жахам. Апамятаўшыся, кожны з уласных няшчасцяў, сабраліся людзі групаю і пачалі думаць, што рабіць. Адны гаварылі, маўляў, трэба пераязджаць у іншае месца, іншыя — што трэба маліцца, бо ўсё гэта вынік колішняга дабрабыту. Збіраліся так некалькі разоў і да ніякага канкрэтнага вываду не прыходзілі. А смерць далей касіла як касою. Забірала маладых людзей.

І прысніўся аднойчы найстарэйшаму жыхару вёскі сон, што, маўляў, можна ўтаймаваць памор, калі б закапаць жыўцом найпрыгажэйшую дзяўчыну ў вёсцы. Усе ўздыхнулі і як адзін сказалі пра Ганну (прымем, што так яна звалася). Прытым павінен яе закапаць той, хто яе кахае. І тут зноў усе згодна загаварылі пра Міколу.

Ганна сапраўды была прыгожаю. Было ёй усяго толькі шаснаццаць гадоў. Рэдка здаралася, што на вёсцы жаніліся ці выходзілі замуж з кахання. Хутчэй браліся пад ўвагу справы матэрыяльныя. Яны з Міколай кахаліся сапраўды. Засумавала Ганна, калі назаўтра абвясцілі ёй сон старца. Вар'яваў Мікола. Спаткаліся яны вечарам з Ганнаю і заплакалі над сваім лёсам. А першы дзень Вялікага Посту набліжаўся. Бо якраз, згодна з прарочым сном старца, у першы дзень Вялікага Посту пасля заходу сонца меў Мікола закапаць Ганну.

— Давай уцячэм цішком, не будзе жыцця без цябе мне, Ганна, — гаварыў Мікола.

— Дзе ж дзенешся ад свайго лёсу, — сказала Ганна. — Я ў бацькоў адна, а ў цябе малодшая сястра і брацік. Ці падумаў ты, што калі гэтага не зробіш, дык іх смерць забярэ. І бацькоў тваіх забярэ, і маіх бацькоў забярэ. Зрабі, Мікола, што сказаў старац.

Балела сэрца Міколе. Але вяскоўцы хапіліся прароцтва сну як апошняга ратунку.

І настаў час. Выйшла ноччу Ганна на ўскраіну вёскі, так як дамовілася з Міколам. Яма ўжо была выкапаная. Прытуліў Мікола Ганну, узяў на рукі і палажыў у дол высланы яловымі галінамі.

— Адвярніся, — кажа, — каб пясок у вочы не пасыпаўся.

І пачаў засыпаць дол. Зрабіў магілку, прытуліўся да зямлі і вырашыў — хай хаця памяць у вёсцы па Ганне застанецца. Запрог валоў ды прыцягнуў агромны камень, які за вёскай ляжаў, і палажыў на магілу.

Калі верыць легендзе, эпідэмія ў вёсцы спынілася. А камень, які лёг на магілу, і даў пачатак назве вёскі.

**Міхась Шаховіч**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, нейкі дзіўны сон мне прысніўся. Здаецца, знаходжуся я на плошчы сходаў у Беластоку пры вул. Юравецкай. Гэта плошча асветлена вельмі яркім святлом, такое ў рэчаіснасці і не бывае. Ды плошча гэта прызначана дзецям для гульняў увечары. І многа там дзяцей са сваімі мамамі гуляе. І я там са сваім, добра не помню каторым, унукам. І раптам над плошчай ляцяць два самалёты. Яны сіняга колеру і ляцяць вельмі нізка, але я не чую ніякага гуку. Тыя самалёты маюць кідаць дзецям цацкі. І адзін з іх выкінуў вялікі мячык. Мячык упаў на зямлю і пакаціўся. Ніводнае дзіця за ім не пабегла. І я кажу ўнуку: „Бяжы, вазьмі мячык“. Але ён не пайшоў.

А яшчэ і другі сон сніўся, гэта нейкі хіба „свінскі“. Нібыта хтосьць мне кажа, што сваячка выгадавала мне вепрука. А я з недаверам кажу, што гэта немагчыма, бо чаму ж яна мела мне яго гадаваць? А бацька мой стаіць і кажа: „Бяры ўжо, калі выгадавала, то што ўжо зробіш...“

**Міра**

Міра! Твой першы сон даволі цікавы, але абазначае, на жаль, што не ўсё ў цябе ў хаце ў парадку. Занадта шмат часу прысвячаеш бессэнсоўнаму захапленню непатрэбнымі справамі. Траціш надарма час і грошы. А гэта ніхто недаацэньвае.

Што датычыць другога сну, дык сніць свіней кепска. Абазначае гэта, што апынішся ў нейкай грубіянскай і непрыемнай кампаніі. У даным выпадку сон можа прадвяшчаць, што нейкая твая сваячка падложыць табе свінню.

Такім чынам, раю табе задумацца над тым, што робіш і з якімі людзьмі маеш дачыненне. Звярні таксама ўвагу на тое, як траціш час і грошы.

**Астрон**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, піша табе маці, якая страціла свой спакой. Ёсць у мяне 19-гадовы сын. Божа, які ж гэта быў хлапец: і да бацькоў добры, і прыстойны, і вучыўся! А якім жа ён быў спартсменам! Проста не маглі мы надзівіцца і нацешыцца, што выгадавалі такога сына. Увесь свой вольны час праводзіў або за цікавай кніжкай, або ў басейне, дзе плаваў летам і зімой.

А вось цяпер знайшоў дзяўчыну і ад гэтага часу ўсё перамянілася. Стаў як бы не нашым сынам. Не вучыцца добра ўжо, не ходзіць у басейн, а ўвесь свабодны час прысвячае гэтай дзяўчыне. Усё было б яшчэ някепска. Няхай бы сабе сябравалі, але ж у апошні час заўважаю з'явы, якія мяне вельмі непакояць. Дзяўчына гэта прыходзіць штодзень да нас. Яны зачыняюцца ў сынавым пакоі і сядзяць там да позніх гадзін. Што яны там робяць — не ведаю, але гадзіны мне гэтыя не падабаюцца. Можа я б яшчэ і не пісала табе, Сэрцайка, калі б у апошні час не заўважыла, што дзяўчына выйшла з нашай хаты а палове трэцяй уначы. І гэта ў канцы канцоў мяне знервавала. Што гэта, у яе бацькоў няма?! Няўжо іх не цікавіць, дзе іх маладая дачка праводзіць ужо не толькі вечары але і ночы, і ці наогул гэтак павінна быць?! Вельмі мяне хвалюе гэтая справа, бо з такіх начных пасядзелак, бадай, нічога добрага не выйдзе. Усё ж такі ёсць адпаведныя гадзіны для візітаў і для сустрэч. І ў гэтым выпадку я б хацела спытацца ў цябе, Сэрцайка, ці можна мець прэтэнзію да бацькоў гэтай дзяўчыны? Бо я прэтэнзію маю. Прынамсі свайму сыну я б на такія начныя пахаджэнні не дазволіла.

**Зіна**

Зіна! Наогул магу цябе адразу пацешыць: начныя візіты могуць давесці да таго ж самага, да чаго даводзяць і дзённыя візіты. У гэтым розніцы вялікай няма. Маладосць мае свае правы, і месца, дзе адбываюцца спатканні, не важнае. Найчасцей адбываюцца яны там, дзе цяплей. Відаць, у тваёй хаце ім цяплей і ўтульней.

І другая справа, якую магу табе сказаць на пацяшэнне. Усё ж такі ты спакойная, што твой сын не валочыцца невядома дзе і невядома з кім, а калі сустракаецца, то ў сваёй хаце і з вядомай табе дзяўчынай. Гэта магу табе сказаць на плюс.

Цяпер — што датычыцца мінусаў. Першы мінус гэта тое, што дзяўчына ў такім узросце (думаю што яна аднагодка з тваім сынам) павінна яшчэ вучыцца. А калі ж яна вучыцца, калі да паловы трэцяй уначы праседжвае ў свайго сябра?!

Да мінусаў трэба таксама залічыць паставу яе бацькоў. Са сказанага табой вынікае, што ім справы дачкі даволі абыякавыя. Бо праўду сказаўшы, бацькі, якія шануюць сябе і дачку, не дазволяць ёй на такія позныя візіты ў чужых людзей. Ці ім ўсё роўна, што і дзе яна ў той час робіць? І яны так спакойна сабе могуць легчы і спаць? Слухай, Зіна, а можа і іх у гэты час няма?...

Думаю, што ты павінна сардэчна пагаварыць са сваім сынам і распытаць у яго больш падрабязна пра гэтую дзяўчыну і пра ўсю яе сям'ю. Бо калі ўжо, як кажуць, у нешта ўступіць, то цяжка будзе яму з гэтага вылезці.

**Сэрцайка**

## З ЛІТОЎСКАЙ КУХНІ

СВЯТЫ НЕ ЗА ГАРАМІ

### БОРШЧ З „ВУШКАМІ“

**На боршч** трэба ўзяць: 75 дэкаў ялавічыны з косткай, 4 буракі, 5 сушаных грыбоў, валашчыну, 10 зярнят перцу, лаўровы лісток, лімонную кіслату, 1 лыжку цукру, 1 лыжку крухмалу. **На цеста:** 1,5 шклянкі пшанічнай мукі, 1 яйка, паўшклянкі вады, соль. **На фарш:** 15 дэкаў варанай ялавічыны (з булёну), цыбуліну, 1 лыжку тлушчу, 1 яйка, перац, соль.

З мяса, валашчыны і добра памытых сушаных грыбоў зварыць булён і працадзіць яго. Асобна зварыць памытыя буракі ў лупінах. Тады адцадзіць іх, абабраць і сцерці на бурачанай тарцы. Дадаць у сцертыя буракі лімонную кіслату ці воцат, заліць булёнам і трымаць так паўгадзіны. Працадзіць боршч, дадаць цукар і змешаны з халоднай вадой крухмал. Усё падагрэць.

Варанае мяса прапусціць праз мясарубку, дадаць пасечаную і падсмажаную на масле цыбулю. Атрыманую масу яшчэ раз прапусціць праз мясарубку і падсмажыць на тлушчы. Дадаць перац, убіць яйка і дакладна перамяшаць.

З мукі, пасоленай вады і яйка падрыхтаваць цеста. Раскатаць яго тонка, рэзаць на квадраты 3×3 см.

З падрыхтаванай мясной масы рабіць шарыкі велічынёю арэха і класці іх на выразаныя з цеста квадрацікі. Цеста загортваць у трохвугольнік, заклейваючы дакладна іх берагі (можна іх змазаць бялком), а пасля гэтага рабіць „вушкі“, спалучаючы два канцы трохвугольніка. „Вушкі“ класці ў пасоленую кіпячую ваду і варыць 3 мінуты ад таго часу, калі яны выплываюць наверх. Гатовыя „вушкі“ вылавіць друшлаком, класці на талеркі і заліваць гарачым баршчом.

### ХЛЕБНЫ СУП З ФРУКТАМІ

На 20—30 дэкаў сушанага чорнага хлеба трэба ўзяць 2 літры вады, 20 дэкаў сушаных сліў (без костачак) і груш, 2—3 лыжкі разынак, 10 дэкаў сушаных яблыкаў, 1—2 лыжкі смятаны, карыцу (цынамон), апельсінную ці лімонную скурку і цукар па смаку.

Сухі хлеб крыху падрумяніць у духоўцы, тады заліць вадой, дадаць прыправы і варыць, пакуль не размякне. Адвар працадзіць, хлеб працерці праз сіта і спалучыць з адварам. Усё закіпяціць, дадаць памытыя, аблітыя кіпятнем слівы, грушы, разынкі, яблыкі і варыць, пакуль фрукты не будуць мяккія. Пасаладзіць па смаку, перад падачай на стол запраўціць смятанай.

**Гаспадыня**



 

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Васіль Ткачоў

## ДЫКТАНТ

Алесь дрэнна піша дыктанты. Памылка перад памылкай скача. Каб хлопчык трохі падцягнуўся, настаўніца параіла часцей пісаць дыктанты дома.

Вечарам Алесь прынёс тату падручнік і сказаў:

— Дыктуй, тата. Буду вучыцца пісаць без памылак.

Тата ахвотна дыктуе, Алесь старанна піша. І так некалькі дзён запар. А потым тата адклаў падручнік убок.

— Садзіся, сынок, пішы, — сказаў ён. — Сёння буду дыктаваць на памяць.

Алесь выводзіць сказ за сказам: „На двары адліга. Радасна свеціць сонейка. На вуліцы лужыны. Я не магу прайсці міма, абавязкова ўлезу ў ваду...“

Алесь глянуў на тату.

— Ты пра каго гэта так?

— Пішы, сынок, пішы...

Алесь піша далей: „Прыйдзеш дадому ўвесь мокры — вось маці і работа. А яна хацела адпачыць...“

— Дрэнны дыктант ты, тата, прыдумаў, — пачырванеў да вушэй Алесь.

— Гэта не я прыдумаў, сынок, а ты, — кажа тата і дыктуе далей.

Вечарам Алесь гадае, які дыктант ён будзе пісаць заўтра.

---

Сам Бог, кажуць, спачываў на сёмы дзень стварэння свету. З тае далёкае пары і існуе божая нядзелька. Так тлумачыла мне з'яўленне нядзелі мая малінаўская бабуля Хрысціна.

Прыкмеціў, колькі б работ ні адольвалі маю бабулю, яна заўсёды трымаецца „божага запавету“. У нядзелю адзяе чыстую сукенку, пячэ пульхныя бліны, лечыць. І маршчыны яе, здаецца, разгладжваюцца ў нядзельны дзень, і больш гаварлівай становіцца, дабрэйшай.

У нашай гарадской кватэры нядзеля таксама дзень адпачынку. Каб хто карміў, дык з ложкаў бы не вылазілі. Асабліва старыя. Яны такой думкі, што нядзеля якраз для таго, каб адлежацца, адаспацца, пабыць сам-насам, супакоіць нервовую сістэму.

Калі я быў меншы, сваю нядзелю яны прысвячалі мне. Вадзілі ў парк, у кіно. Ездзілі ў лес, на рэчку. Цяпер яны пазбавіліся гэтых клопатаў. За руку вадзіць мяне не трэба. І слаўненька. Можна займацца, чым душа пажадае.

Бацькава душа засаджвае яго за пісьмовы стол, і ён нешта творыць для яе, а не для газеты.

Маміна душа — прытулак самых розных жаданняў. Калі яна з ахвотай бярэцца за кухарства, то мы доўга помнім яе абед. Калі садзіцца ля швейнай машыны, то і тут яна сапраўдны творца.

Мая ж душа заўсёды рвецца на волю. Туды, дзе няма ўважлівага бацькоўскага вока. З Віцькам Мятліцкім ці з Ігарам Сташынскім ходзім у кіно. А то збіраемся гуртам у парку і гаворым пра жыццё-быццё.

Дарослыя, калі бачаць наш гурт, думаюць: шалапаі. Збоку мо і так. Джынсавая лахматая кампанія. Мішка Рагаль і Стась Яськоў кураць. Усе могуць дзіка зарагатаць альбо паваліць Сяргея Міронава і надаваць кухталёў за тое, што занадта языкаты. А што? Правільна, языкатых трэба вучыць.

Уладзімір Ліпскі

## СПОВЕДЗЬ ШПУНДЗІКА

(6-ы ўрывак з аповесці)

А каб жа ведалі дарослыя, пра што наша гаворка, пра што наш клопат!

Няма на свеце тэмы, якая б не хвалявала нас. Можам спрачацца ці ёсць жыццё на Венеры? Ці была замужам наша хімічка, чаму яна носіць залаты пярсцёнак на левай руцэ? Гэта для нас такая ж тайна, як і крылатыя ракеты.

— ✱ —

У нядзелю раніцай падышоў бацька і па-змоўніцку прапанаваў:

— Прачынайся, Сяргей! Ідзя адна ёсць.

— Якая?! — імгненна адхлынуў ад мяне сон.

— Давай на сённяшні дзень возьмем уладу ў хаце ў свае рукі.

— А ўтрымаем? — хітравата падміргнуў яму.

— Паспрабуем, — адказаў ён аптымістычна.

Падхапіліся з ложка, апранулі спартыўныя касцюмы, выйшлі на балкон. Нядзеля чакалася прыемная і цікавая, а для гэтага патрабавалася сіла і натхненне. Потым забарыкадзіраваліся на кухні.

Нашы кухарскія здольнасці, як высветлілася, бедныя.

— Давай так, — улез я са сваёй прапановай. — Я буду абіраць бульбу — з яе можна што хочаш зрабіць, а тым часам ты пагартай кніжку пра здаровую і смачную ежу.

— Малайчына!

У самы разгар работы на кухню пачала прабірацца мама.

— Што вы робіце? Адчыніце!

— Зараз, зараз, мама, пачырывай трошкі, — адгукнуўся я.

— Знайшоў! — закрычаў бацька. — Язык з такой стравай можна праглынуць. Бульба, фаршыраваная мясам!

Мы ўзяліся за работу і зраз паўгадзіны адправілі ў духоўку каструлю з фаршыраванай бульбай.

Працяг будзе

---



Вёска Грабавец у зімовай імгле. Фота Я. Чэрнякевіч.

Алёна Шарэпа-Лапіцкая

## СІНІЧКА

*Ой, мая сінічка,*
*Рана на зары*
*Не стучы ты дзюбкай*
*Звонка па вуллі, —*

*Покуль сад пад снегам*
*Казачна прыгож*
*Ты маленькіх пчолак*
*Песняй не трывож!*

*Калі заіскрыцца*
*На галлі іней,*
*Калі закружыцца*
*Белая мяцель, —*

*Ты, мая сінічка,*
*Пчолак не пужай,*
*Уцякай, сястрычка,*
*У далёкі гай!*

---

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Алесь Якімовіч

## БАЙКА ПРА КАЗЛА

У бабулькі Агаты
Жыў стары казёл рагаты,

Гэткі сівенькі,
Сівагрывенькі.

І разумны ж быў:
Сам ваду насіў,

Сам у печы паліў,
Сам і кашу варыў,
Бабу з дзедам карміў,

Барадой матаў —
Хату падмятаў.

Шмат казёл рабіў і шкоды —
Лазіў часта ў агароды,

Пасвіўся у полі —
У аўсе найболей.

А за полем быў лясок, —
Ён відаць казлу здалёк.

Вось казёл у лес ідзе:
— Што там смачнае расце?

Можа ў лесе густа
Вырасла капуста?

Ходзіць ён па ельніку,
Бродзіць па бярэзніку, —

Ні капусты, ні салаты
Не знаходзіць барадаты.

Раптам нехта штурх у бок:
— А, папаўся, галубок!

Я даўно цябе чакаю,
Усё на поле пагладаю...

Тупнуў наш казёл нагой:
— Хто ты гэтакі герой?
Будзем дужацца з табой!

— Няма часу! — кажа воўк
І схапіў казла за бок.

— Бэ-э, — казёл тут забляяў
І, як сноп, на мох упаў...

Баба палку узяла
Ды пайшла шукаць казла.

Пахадзіла па палях,
Па балотах, па лугах,

Заглянула і ў лясок.
Бачыць: спіць пад елкай воўк.

— Гэй, — спытала у ваўка, —
Ці не бачыў казялка?

Прахапіўся сонны воўк:
— А які твой казялок?

— Козлік сівенькі,
Сівагрывенькі,

Барадаценькі
Ды рагаценькі...

Шэры воўк зарагатаў:
— Як жа, як жа — спатыкаў:

Ля дарогі
Бачыў рогі,

Ля маста —
Шматок хваста...

Баба ўголас: — О-ё-ёй!
А казельчык жа тым мой!

Хто ж цябе са свету збыў?
Каб яго пярун забіў!



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Пішa да Цябе вучаніца чацвёртага класа Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. Хачу Табе сказаць, што вельмі люблю чытаць „Зорку". Я хацела б, каб гэтая старонка для дзяцей займала больш месца і каб у „Зорцы" было многа загадак, смяшынак, апавяданняў, песень, казак, вершаў.

**Дарота Джэга, 4 кл.**
**Дубічы-Царкоўныя**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА"!

Першы раз адважыўся да Цябе напісаць. Наша настаўніца ад беларускай мовы сказала напісаць нам пісьмо ў рэдакцыю „Зоркі". Вось я і пішу.

Нашай выхавацельніцай з'яўляецца пані Скурская. Мой старэйшы брат Юзік ходзіць у сёмы клас. Я вучуся ў чацвертым класе, а мой малодшы брат Данік — у трэцім класе. Наймалодшы наш брат ходзіць у нулявы клас, а сястрычцы толькі адзін год і восем месяцаў.

**Славік Скавародка, вуч. 4 кл.**
**Дубічы-Царкоўныя**

## Вясёлы куточак

**Віктар Швед**

### ЛЫСЫ МОЙ ТАТКА

Настаўнік сварыць Ваню:
— Дык прычасацца трэба!
А Ваня ў апраўданне:
— Згубіў я недзе грэбень.

— Каб больш не быць
кудлатым,
Мець валасы ў парадку,
Грэбень вазьмі ў таты.
— Лысы цалкам мой татка!

### ФЕДЗЯ ДАЛЁКА НЕ ЗАЕДЗЕ

Просіць на некалькі хвілін
Настаўнік Федзі тату:
— Па геаграфіі ваш сын
Чамусьці слабаваты.

— Не будзе іншых перашкод —
Дык можа жыць мой Федзя.
З такім малым, як наш даход,
Далёка не заедзеш.

### ЦІ НЕ БАЧЫЛІ ВЫ ТАТУ?

Бацьку згінула малая
Дочухна ў вялікім тлуме.
І нервова ён шукае,
Робіць многа крыку, шуму.

З горыччу людзей Агата
Запытала праз хвілінку:
— Ці не бачылі вы тату
Без такой, як я, дзяўчынкі?

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Паглядзі на малюнак, на птушачак, як яны завіхаюцца ля кармушкі, і падумай, ці ты ўсё зрабіў, каб птушачкам у тваёй мясцовасці лягчэй удалося перазімаваць. Дапамажы ім. Памалюй карцінку каляровымі алоўкамі.**





## Паглыбляй свае веды

# „ПАГОНЯ"

Дзе вытокі сімвала „Пагоня"? Якое дачыненне маюць да яго беларусы?

Герб „Пагоня" набыў асаблівае значэнне ў Вялікім княстве Літоўскім. Поўная назва гэтай Феадальнай дзяржавы — Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае. Цэнтрам яго быў спачатку Навагародак (Наваградак), а з 1323 года — Вільня. Дзяржава існавала на тэрыторыі Літвы і Беларусі ў XIII—XVIII стагоддзях, Украіны да 1569 года і невялікай часткі Расіі да 30-х гадоў XVI стагоддзя. Беларускія і ўкраінскія землі тады называліся „рускімі". З другой паловы IV стагоддзя беларуская мова становіцца тут дзяржаўнай мовай. Грамадзяне дзяржавы называліся „ліцвінамі".

Каб зразумець пачатковы сэнс сімволікі „Пагоні", прыгадаем гісторыю.

Віцень княжыў з 1293 да 1316 года і знаходзіўся ў Навагародку. Ён умацоўваў дзяржаву, абапіраючыся на Навагародскае, Гродзенскае, Полацкае княствы. Паводле Густынскага летапісу, Віцень „нача княжици над Літвою измысли себе герб и всему княжеству печать: рыцер збройный на коне з смечом, еже ныне наричут погоня".

У дакуменце 1387 года растлумачваецца дэвіз герба і падкрэсліваецца, што, паводле народнага разумення, „пагоня" — гэта праследаванне ворагаў, каб яны ўцякалі з нашай зямлі. У барацьбе з крыжаносцамі павінна было ўдзельнічаць усё мужчынскае насельніцтва, здольнае насіць зброю.

У беларуска-літоўскім летапісе „Хронiцы Быхаўца" адзначана, што князь Нарымонт таксама меў герб „человека на коне с мечом". Нарымунт Глеб Гедымінавіч з'яўляўся ўдзельным князем пінскім і князем полацкім. Захавалася яго пячатка на дагаворы Полацка з Рыгай 1338 года. На правым яе баку адлюстраванне князя з мячом на кані, на левым — надпіс: „Печать княжа Глебава".

За дзяржаўны герб Вялікага княства Літоўскага „Пагоня" была прынята ў 1384 годзе. Калі Ягайла стаў польскім каралём, ён аб'яднаў у адным гербе „Пагоню" і польскі герб „Арла", але нярэдка ўжываў іх паасобку, гэтак жа, як і яго сын Казімір.

Пад сцягамі-харугвамі з „Пагоняй" ішлі ў бой на Грунвальдскім полі 30 з усіх баявых атрадаў, якія выставіла Вялікае княства Літоўскае пад камандаваннем Вітаўта супроць тэўтонаў у 1410 годзе. Па няпоўных дадзеных пісьмовых крыніц, з беларускіх земляў у складзе войска Вітаўта былі атрады з Полацка, Віцебска, Гродна, Бярэсця, Пінска, Навагародка, Ліды, Ваўкавыска, Мсціслава, Драгічына, Мельніка. На самай жа справе беларускіх атрадаў было намнога больш. Менавіта ім належала большасць харугваў з „Пагоняй". Дзесяць палкоў Гедымінавічаў мелі на сцягах таксама „Пагоню", але на шчыце конніка замест падвоенага крыжа былі тры слупы (калюмны).

„Пагоню" можна бачыць на гербах многіх беларускіх гарадоў. Гэта адна з асноўных эмблем усёй геральдыкі гарадоў Беларусі. Яна ўжывалася на гербах буйных феадалаў.

Выдатны рускі гісторык В. Н. Тацішчаў (1686—1750) у сваёй „Гісторыі Расійскай" так і занатаваў: „Гербам Белай Русі здаўна быў коннік белы ў чырвоным полі, які трымаў шаблю (меч) перад сабой".

„Пагоня" — гэта наша спадчына, гераічная і драматычная. Яе мы павінны ведаць і ёй ганарыцца.

(Паводле Г. В. Штыхава, доктара гістарычных навук)

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✳ —

Юстына Якубоўская, вучаніца 5 класа, 17-210 Нараў, вул. Міцкевіча 101 е/12. Беластоцкае ваяводства.

— ✳ —

СССР, 163061, г. Архангельск, ул. Энгельса 11, кв. 125. Ира Дорофеева. (Сяброўка Іры Наташа Рагожнікава жыве ў тым жа доме ў кватэры № 167. Абедзве дзяўчынкі хочуць перапісвацца з дзяўчынкамі з горада Беластока).

— ✳ —

СССР, 150035, г. Ярославль, ул. Ньютона, 65, кв. 36. Казаковой Кате. 7 клас.

— ✳ —

БССР, 220023, г. Мінск. вул. Волгаградская, 19 а, кв. 50. Юля Рэпка. 5 клас.

— ✳ —

СССР, Архангельская обл., г. Новодвинск, ул. Мира, 6, кв. 51. Вершининой Тане. 7 клас.

— ✳ —

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша, 3 а, кв. 6. Моисеенко Александру. 7 клас.

— ✳ —

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты-27, ул. Текстильная 43, кв. 73. Чернушкиной Ирине. 7 клас. (Сяброўка Ірыны Аксана Чуруканава жыве ў тым самым доме, кватэра № 74, таксама хоча перапісвацца.)

— ✳ —

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Театральная. 35-25. Панариной Валентине. 5 клас.

— ✳ —

СССР, 346506, г. Шахты-6, Ростовской обл., ул. Дундича, 17. Дубенко Оксана. 5 клас.

— ✳ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 15, кв. 51. Саша Літвіновіч. 3 клас.

— ✳ —

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 15, кв. 60. Дзіма Гладкі. 3 клас.

— ✳ —

БССР, 220116, г. Мінск — 116, пр. Праўды, 22, кв. 271. Ларыса Сінкевіч. 6 клас.

— ✳ —

БССР, 220116, г. Мінск — 116, вул. Ясеніна, 6 к. 1, кв. 30. Наташа Смычкова. 6 клас.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка"

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ПАХ ЧАБАРОВЫ

Музыка У. Будніка — Словы К. Кірэенкі

*Не прыдумаю сама,*
*Што са мной здарылася:*
*З працы сёння йшла дамоў*
*І з дарогі збілася.*
*Мне б ісці каля ракі, —*
*Я ж пайшла дубровай,*
*Галаву маю кружыў*
*Пах чабаровы.*
*Прыпеў:*
*Я ішла ўсё ды ішла,*
*Аж пакуль стамілася,*
*І не ведаю сама,*
*Як з Ігнасем стрэлася.*
*А Ігнась жа — ён са мной*
*Ды такі суровы...*
*Не кружы ты галавы,*
*Пах чабаровы!*

*Хлопец глянуў на мяне —*
*Я аж здрыганулася.*
*Але што са мной? Чаму*
*Да яго схінулася?*
*І чаму так мілы мне*
*Прывітання словы?*
*Кружыць, кружыць галаву*
*Пах чабаровы.*
*Прыпеў.*
*Што скажу матулі я.*
*Як часінай позняю*
*Я з'яўлюся перад ёй,*
*Ласкавай і грознаю.*
*Што скажу, схаваю як*
*Водар той дубровы?*
*Я ж у хату прынясла*
*Пах чабаровы...*
*Прыпеў*




# НІЎКА




— ✱ —

— Ад чаго ў цябе, Пятрук, такі сіняк над левым вокам?
— Ад думкі!
— Ды не хлусі ты!
— Дальбог! Думаў, што жонка вернецца ад маці ў суботу, як абяцала, а яна прыехала ў чацвер.

### АРЫГІНАЛ І КОПІІ

— Як ён падобны на мяне, — здзівілася Копія, паглядзеўшы на Арыгінал.
— І на мяне, — сказала другая Копія.
— І на мяне, — падтакнула трэцяя.
— Ды як ён пасмеў! — абурылася чацвёртая. — Зараз мы яму пакажам!
Калі столькі Копій, куды падзецца Арыгіналу?!

— ✱ —

— Як справы ў вашага сына? — пытае жанчына ў сваёй знаёмай.
— Нядрэнна. Ён цяпер у цырку працуе. Спраў там у яго няшмат: тры разы ў дзень усоўвае ён галаву ў пашчу тыгра, а пасля свабодны.



**Не бойся памылак! Можа быць і так, што адна з іх прывядзе цябе, як і Калумба, да адкрыцця Амерыкі.**

# ВАМ ХАХАНЬКІ...

— У вашай цырульні пагаліцца можна?
— Калі ласка, сядайце.
— Яно можна і сесці. Толькі вы сумленна, таварыш майстар, скажыце: крэсла ў вас, таго... не шкапыртаецца?
— Не разумею.
— А што тут, шаноўны, разумець? Вось сяду я, напрыклад, у крэсла, а сядзенне р-раз! — і паваліласся. Тады што? Вам хаханькі, а я магу на ўсё жыццё калекам застацца. Адзін мой знаёмы вось так сабе язык адкусіў.
— Ды што вы! Не бойцеся, сядайце. Крэсла новае, механізаванае. Вось націсну на педаль — падымаецца, вось тут націсну — апускаецца. Усе выгады.
— Ну, дзякуй, даражэнькі. Супакоіў. А скажыце мне, таварыш майстар, а брытва ў вас як? Не разумееце? Я цікаўлюся, ці добра навастрылі інструмент. А то ў непрыемнасць можна ўскочыць. Сядзеш да вашага брата, а ён я-ак пацягне тупою альбо вышчарбленай — з вачэй аж іскры пасыплюцца. Са скуры валасы здзірае. Адзін чалавек расказваў...
— Брытва ў мяне класная. Як па масле ідзе. Нават не пачуеце.
— Вось-вось, праз гэта я і баюся садзіцца.
— У чым справа?
— А вы не заражаце?
— Вы што, жартуеце?
— Якія там жарты! Я верабей стрэляны. Вам галоўнае што? План. Вось і спяшаецеся, вось і цісне. А пакутуе хто? Мы, кліенты. Злавіў галаву, напрыклад, майстар, а брытва вострая. Так! І гатова. Носа і вуха як не было. Яшчэ і за работу ўтрал даражэй здзераце.
— Слухайце, таварыш!
— А што тут слухаць! Я — чалавек, што думаю, тое кажу. Праўду-матку ў вочы рэжу. Твар у мяне далікатны, інтэлігентны. З ім абыходзіцца трэба асцярожна. А дзе гарантыя, што вы мне вось гэтую бародаўку ці прышчык не зрэжаце? Самі ж хваліліся, што брытва вострая.
— Вы здзекавацца прыйшлі!
— Х-хе, вы бачылі такога? Хто з каго здзекаваецца? Самі скурадзёры, калечаць і рэжуць людзей, а пасля ўсяго гэтага на нас жа, кліентаў, віну звальваюць. А яшчэ сярод вашага брата водзяцца і такія, хто пад мухаю на работу прыходзіць. І брытву ў рукі, нягоднік, бярэ. Хіба ж можна такому давяраць сваё жыццё?
— Ды змоўкніце нарэшце!
— О-о, а я што казаў? І ў гэтага рукі трасуцца. Відаць, з перапою. І бледны, бы той нябожчык. Ну і час настаў! Ужо ў восьмую цырульню заглядаю сёння, а путнага майстра знайсці не магу.

**Пятрусь Капчык**

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

*Найлепшай асалодай, самай высокай радасцю ў жыцці — адчуваць сябе патрэбным і блізкім людзям.*
*Максім Горкі (1868—1936), пісьменнік*

— ✱ —

Суддзя пытае ў жанчыны:
— Няўжо не было ў вашага мужа якіх-небудзь станоўчых рысаў, калі вы выходзілі за яго замуж?
— Так, былі. Але за тры гады сумеснага жыцця ён усё станоўчае растраціў да апошняй капейкі.

— ✱ —

— Мама, у цябе ўжо некалькі сівых валасоў, — гаворыць маленькі Тадзік.
— Бацькі заўсёды сівеюць, калі іх не слухаюць дзеці.
Тадзік задумаўся:
— Цяпер я разумею, чаму бабуля зусім сівая.



— Гэта мае дзіцё?.. А ці няма ў вас каго-небудзь цішэйшага?



Сталёвыя скіўцы.

✱

Паўторны шлюб, як паўторны фільм: сюжэт вядомы, а ўсё-такі цікава, чым скончыцца.




**Моцны пагражае пальцам, слабы кулаком.**